БУДАЎНІЦТВА

# Эксперыментальныя дамы

*СМАРГОНЬ. За апошнія 15 год, з пачатку работы па ўзвядзенні агрэгатнага завода — філіяла мінскага МТЗ, у Смаргоні пабудавана шмат жылля, выраслі два новыя мікраараёны. А вось пра вёску на гэты час забыліся. Калі і будавалася апошнім часам што, то, найперш, сацыяльныя аб'екты.*



*Новыя катэджы ў вёсцы Стрыпуны.*
ФОТА МІХАСЯ РАЗУМНІКА.

Летась ад агульных аб'ёмаў у вёсцы ўзвялі жылля пятую частку, сёлета – трэць. На наступныя гады, лічыць старшыня райвыканкома Мікалай Кавалёў, трэба будаваць 50 на 50 працэнтаў.

На нядаўнім семінары старшыня калгаса "Кушляны" Іван Адарэйка паказваў і расказваў пра новенькія 5 катэджаў у вёсцы Асіпаны і столькі ж у Стрыпунах, пра ход будаўніцтва шасці катэджаў у вёсцы Кушляны, завершаную рэканструкцыю гэтай цэнтральнай калгаснай вёскі з маляўнічым возерам у цэнтры, пешаходнымі сцяжынкамі і асвятленнем прыбярэжжа.

Дамы, пабудаваныя ў калгасе, эксперыментальныя, іх праекты распрацоўвала праектная майстэрня раённага УКБ. Ішла "абкатка" розных варыянтаў, з іх будуць выбраныя 2–3 найлепшыя.

Усё жыллё трох– і чатырохпакаёвае, побач удалыя гаспадарчыя пабудовы, гаражы, а пляц займае плошчу ў чвэрць гектара.

***Павел МАКЛЮК.***

ЮБІЛЕІ

## У Грэцыі ёсць усё, нават смаргонцы

СМАРГОНЬ. 20–гадовы юбілей адсвяткавалі педагагічны і вучнёўскі калектывы гімназіі №4, яе былыя выпускнікі. Цэлы тыдзень у сценах гэтай лепшай навучальнай установы горада доўжыліся цікавыя мерапрыемствы.

1574 выпускнікі выйшлі адсюль у сталае жыццё. Цяпер у гімназіі займаецца 1012 вучняў і працуе 103 настаўнікі. За 20 год залатыя медалі атрымалі 165, а сярэбраныя – 168 навучэнцаў–выпускнікоў. Самы вялікі выпуск быў у 1988 годзе – 101 вучань. Самы малы – у 1981 – 30. Самы вялікі цяпер 4 "А" клас налічвае 29 чалавек, самыя малыя – 1 "В" і 3 "Г" – па 13 вучняў. Самы "мужчынскі" клас – 10 "Д" – 87 працэнтаў хлопчыкаў, самы "жаночы" – 10 "В" – усе дзяўчынкі. **Уладзімір Кабак** стаў пераможцам міжнароднай алімпіяды па інфарматыцы ў Грэцыі.

***Павел МАКЛЮК.***

КУРСЫ ВАЛЮТ

## Курсы валют НБ РБ

| | 11 лістапада | 18 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 305 000,00 руб. | 308 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 162 290,95 руб. | 163 792,76 руб. |
| Літ | 76 226,18 руб. | 77 019,25 руб. |
| Рас. руб. | 11 680,00 руб. | 11 700,00 руб. |
| Злоты | 71 336,69 руб. | 72 714,40 руб. |
| ЕЎРА | 317 413,50 руб. | 320 350,80 руб. |

## "Вулічныя" курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 680 000–720 000 руб. | 690 000–720 000 руб. |



АДПАЧЫНАК

# Вілейскія хлопцы любяць пачаяваць, калі стол накрывае "літоўка"

ВІЛЕЙКА. У бары "Несцерка" прайшло другое пасяджэнне чайклуба. Вучні старэйшых класаў не жартам задумваліся, як жыць далей. Бо да гэтага прымушала сама тэма чаяпіцця: "Задумайцеся: гэта сур'ёзна". Але не толькі сур'ёзна школьнікаў агітавалі за здаровы лад жыцця. Аддзел моладзі райвыканкома распрацаваў гульнявую, конкурсную праграму. Ад песняў пра каханне (хто больш ведае) да надзявання на агурок прэзерватыва.

Распрацоўвае конкурсы, піша сцэнарыі (для чайклуба таксама) загадчыца метадычнага аддзела Вілейскага цэнтра культуры **Тарэса Закрэўская**.

**– Скажы, Тарэса, адкуль у цябе столькі фантазіі? Мы падлічылі, што, бывае, ты пішаш па 5 сцэнарыяў за тыдзень.**

– У сістэме культуры я ўжо 11 год. Скончыла культасветвучылішча па спецыяльнасці харэограф, універсітэт культуры. Набыла нейкі досвед.

**– Адразу відаць веданне табой літаратурнай беларускай мовы.**

– На справе, мову я пачала вывучаць толькі ў вучылішчы. Жыла з бацькамі ў Пастаўскім раёне, на мяжы з Літвой, куды і хадзіла ў школу. Пагранічнікаў, зразумела, тады не было. І вучылася я ў вёсцы Адуцішкі Свянцянскага раёна. І ў школьным пасведчанні па літоўскай мове мне стаяла "4".

**– Ну, і як там было, за мяжой?**

– У нас бывае так: трактар да клуба падагнаў – і з кабіны ў залу. А ў іх, на той час, прынята было, каб дзяўчынцы хлопец білет купіў, паліто дапамог зняць. Ну, а калі ты без хлопца, не прынята станавіцца ў круг танчыць.



*Тарэса Закрэўская.*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

ЦЭНЫ НА ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) 10.11 | 17.11 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 740 | **740** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2600 | **2484** |
| Сасіскі | 1 кг | 790 | **715** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 660 | **660** |
| Рыс | 1 кг | 390 | **390** |
| Грэчка | 1 кг | 550 | **550** |
| Цукар | 1 кг | 230 | **235** |
| Алей | 1 л | 610 | **560** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 239 | **239** |
| Маянэз | 250 г | 90 | **110** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 750 | **750** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | **270** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 200 | **190** |
| Лімоны | 1 кг | 620 | **620** |
| Бананы | 1 кг | 370 | **380** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | **130** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 320 | **400** |
| Масла | 1 кг | 1000 | **1100** |
| Тварог | 1 кг | 380 | **400** |
| Малако | 1,5 л | 150 | **150** |
| Бульба | вял.вядро | 600 | **500** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 280 | **350** |
| Яблыкі | 1 кг | 250-300 | **300-350** |
| Капуста | 1 кг | 45 | **50** |
| Морква | 1 кг | 120 | **100** |

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## У Солах маюць могілкі на 35-40 год наперад

СМАРГОНЬ. Як і шмат дзе, у Солах былі ўжо перапоўненыя мясцовыя могілкі. Прыбралі іх, падчысцілі, абуладкавалі асфальтаваны пад'езд. Адначасова за некалькі месяцаў займелі новыя могілкі: архітэктары выбралі, адвялі і разбілі тэрыторыю, а ўпраўленне механізацыі спецыяльных работ №230 зманціравала жалезабетонную агароджу перыметрам у 645 метраў і агульным коштам будаўніцтва і матэрыялаў 2,2 мільярда рублёў.

Да гэтага прыкладу прыглядаюцца ў іншых калгасах і сельсаветах. Справа ў тым, што жалезабетонныя пліты з АП "Смаргоньсілікатабетон" даволі танныя і прыгожа глядзяцца ў якасці агароджы, а служыць будуць доўга.

***Павел МАКЛЮК.***

ДАРОЖНЫ РУХ

## Ці будзе Іваноў лепшым «даішнікам»?

*СМАРГОНЬ. Летась начальніка мясцовай ДАІ Генадзя Іванова прызналі лепшым у сваёй справе на Гродзеншчыне. Сёлета на Смаргоншчыне зноў зніжаецца ўзровень аварыйнасці.*

Калі сем год таму за год рэгістравалася па 90–95 аварый, то летась была 41. З 83 да 34 знізілася колькасць пацярпелых.

І сёлета за дзесяць месяцаў дасягнута ўстойлівае зніжэнне ДТЗ, у жніўні–верасні, прыкладам, дапушчана толькі адно здарэнне, у якім атрымаў невялікія траўмы адзін чалавек. Ці прызнаюць Іванова лепшым "даішнікам" зноў?

***Павел МАКЛЮК.***

ПРАФЕСІЯ

# Аператары пэйджынгавай кампаніі

*Рабочы дзень аператара пэйджынгавай сувязі праходзіць звычайна ў адзіноце, калі не лічыць шматлікіх прыбораў. Карыстальнікі гэтага віда сувязі прывыклі ўжо, што адказвае ім ветлівы жаночы голас:*
*— Аператар "РадыёПэйдж". Добры дзень!*

## Аператар – і дома аператар

МАЛАДЗЕЧНА. Аператары мясцовай кампаніі "РадыёПэйдж" працуюць у тры змены. Святы і выхадныя – не выключэнне. У любы дзень і ў любым настроі аператар пэйджынгавай кампаніі павінен заставацца ветлівы з кліентамі (яны заўсёды маюць рацыю!), паважаць іх.

– Цяжка заставацца спакойным, калі тэлефануюць хамы або п'яныя. Часам даводзіцца фармуляваць за іх паведамленні, бо яны не ўмеюць выказваць свае думкі, – скардзіцца аператар Ала.

– Акрамя ветлівасці, граматнасці (паведамленні павінныя быць без памылак), уважлівасці, аператару пэйджынгавай кампаніі патрэбная знаходлівасць. Калі ўзнікаюць цяжкасці з прыборамі, нам даводзіцца самім займацца іх "рэабілітацыяй". А ў Мінску гэтым займаюцца інжынеры, якія дзяжураць у кампаніях кругласутачна. Наогул, работа наша цяжкаватая, напружаная. Першы час прыходзіла дадому і, калі званіў тэлефон, хапала трубку і аўтаматычна выдавала: "Аператар "РадыёПэйдж" слухае. Добры дзень!" – дадае яе калега Наташа.

Аператары "РадыёПэйдж" расказваюць, што калі–нікалі ўзнікаюць цяжкасці з тэлефоннай сувяззю: з–за розных памех дрэнна чуваць нумары абанентаў. Бывае, кліенты неразборліва гавораць. Але кожнага трэба зразумець і перадаць паведамленне аператыўна.

На "РадыёПэйдж" штодня прыходзіць інфармацыя пра фінансы, надвор'е, курсы валют. Ні хвіліны адпачынку.

## А яшчэ было...

Гісторыя ад аператара Наташы:

– Бывае, людзі даюць аб'яву ў газету, пішуць нумар тэлефона нашай кампаніі і нумар свайго пэйджэра. Чытачы часта не звяртаюць увагу на апошняе, тэлефануюць нам і патрабуюць, каб мы сказалі кошт той ці іншай рэчы. Аднойчы патэлефанаваў чалавек і запытаўся: "Колькі каштуе руберойд?" Я пачала яму тлумачыць, што існуе пэйджынгавая сувязь. Ён доўга слухаў, але ўрэшце не вытрымаў:

– Мне ўсё адно, якая ў вас сувязь. Хоць касмічная! Скажыце, колькі каштуе руберойд!

Гісторыя ад аператара Алы:

– У паведамленнях нельга скарыстоўваць нецэнзурныя словы і выразы, знявагі, пагрозы. Аднойчы патэлефанаваў мужчына і ў сваім паведамленні знаёмаму звярнуўся да таго непрыстойна. Я патлумачыла, што так рабіць нельга. Ён запытаўся: "Тады можна яго назваць нехарошым чалавекам, "радыскай"?

***Юлія ВАНСЛАЎ.***

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## Вёскі– пераможцы

*СМАРГОНЬ. Традыцыйны конкурс па добраўпарадкаванні прайшоў у раёне.*

Сёлета лепшымі прызнаныя вёскі Нястанішкі (да 200 жыхароў), Кушляны (да 500), Солы (звыш за 500). Яны атрымалі Ганаровыя граматы райвыканкома і па 10 мінімальных зарплат у якасці прэмій.

***Павел МАКЛЮК.***

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Тэлефонны майстар

МАЛАДЗЕЧНА. "РГ" паведамляла ў №45 пра затрыманне ў горадзе "майстра па рамонце тэлефонных апаратаў". Гаворыць следчы СА Маладзечанскага ГРАУС **У. Шульга**.

– Так, у вытворчасці следчага аддзела знаходзіцца крымінальная справа, узбуджаная па фактах махлярскіх дзеянняў, здзейсненых у адносінах да жыхароў Маладзечна грамадзянінам **Е. Шарапавым**. Ён прадстаўляўся работнікам вузла сувязі і тлумачыў, што выконвае работы па рамонце тэлефоннай лініі. Затым ён імітаваў работу па рамонце тэлефонных апаратаў грамадзян, а за быццам бы выпраўленыя непаладкі патрабаваў аплату. У сувязі з узніклай неабходнасцю па крымінальнай справе прашу тых, хто пацярпеў ад дзеянняў гэтай асобы, патэлефанаваць у Маладзечна 79231 (следчы У. Шульга).

***Аддзел інфармацыі.***

## Тры трупы ў адной машыне

МЯДЗЕЛ. Ля вёскі Рудзевічы аўтамашына Форд–Сіера, якой па даверанасці кіравала маладзечанка Ірына Д., выехала на паласу сустрэчнага руху. І сутыкнулася з МАЗам. У выніку загінулі сама Ірына, яе бацька і бабуля.

***Алесь ВЫСОЦКІ.***

## Магічная лічба "13"

ВІЛЕЙКА. Гараджанін В. Я., які жыве па вуліцы Чапаева, трапіў, як гаворыцца, у сітуацыю. 13 лістапада на аўтамашыне ВАЗ–21013 на ўчастку дарогі Мінск–Нарач сутыкнуўся з КамАЗам.

У выніку прычыніў сабе цялесныя пашкоджанні. Дарэчы, віляйчанін і пражывае ў кватэры №13. Знаёмыя яму неаднойчы раілі 13–га не выкарыстоўваць машыну.

***Аддзел інфармацыі.***

## Стэрэаграбеж

ВІЛЕЙКА. Гаспадары кватэр у шматпавярхоўках па вуліцах Гагарына і Чапаева прыйшлі дадому на абед і жахнуліся. Злачынцы ўскрылі іх кватэры, забралі грошы, каштоўныя рэчы. Не пагрэбавалі нават прадуктамі з халадзільніка.

***Наталля ВАЛЫНЕЦ.***

### Работа над памылкамі

У мінулым нумары, на жаль, аказаліся пераблытанымі подпісы пад двума здымкамі ў матэрыяле з Валожына.

«Памяняліся месцамі» подпісы пад выявамі касцёла і царквы. Просім прабачэння ў чытача.

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Ірыны Буцер, Маладзечна




**Па вертыкалях:** 1. Доўгая вяроўка з пятлёй. 2. Страва з круп. 3. Марскі заліў на поўначы. 4. Месца гандлю. 5. Горны баран. 6. Мнагаклетачная марская жывёла. 9. Дзяржава ў Азіі. 13. Прыродны вадаём. 14. Рух пяшком. 18. Цвёрдая набойка на падэшве. 19. Беларускі пісьменнік. 21. Аблямоўка ў адзенні – каляровы шнур. 22. Паўднёвае вечназялёнае дрэва. 23. Павага, слава. 24. Папяровы пакунак. 26. Умацаванае жыллё феадала. 27. Напоўненае вадой штучнае рэчышча. 29. Спроба зрабіць што–небудзь недазволенае. 31. Дашчаная будыніна для часовага жылля. 33. Скатавод у Манголіі. 35. Найменшая часцінка элемента.

**Па гарызанталях:** 5. Вялікі клавішны музычны інструмент. 7. Спартыўны прыз. 10. Ліст паперы. 11. Эканамічны лад грамадства. 12. Подкуп службовай асобы. 14. Тоўстая моцная вяроўка. 15. Буйная крэдытная ўстанова. 16. Поўны правал. 17. Перакрыццё ў форме дугі. 19. Круг, які круціцца на восі. 20. Падатак прадуктамі. 21. Шумны, бязладны натоўп. 28. Пастава цела. 30. У Францыі: каталіцкі святар. 32. Рад бярвенняў. 33. Вялікі празаічны твор. 34. Велічыня ў вымярэнні. 35. Жвачная жывёла. 36. У паэтычнай мове: араты. 37. Пасудзіна для віна.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў нумары 46*

**Па гарызанталях:** 3. Палац. 6. Ліфт. 7. Мана. 9. "Таварышам". 14. Старт. 17. Шарон. 19. Партрэт. 21. Бурум. 22. Амбра. 23. Адысея. 24. Паркан. 25. Пагон. 28. Табар. 29. Барабан. 30. Атлас. 31. Памол. 34. Эўтаназія. 35. Лупа. 37. Каін. 38. Багаж.

**Па вертыкалях:** 1. Карат. 2. Паром. 4. Ліман. 5. Ангар. 8. Арбіта. 10. Стан. 11. Арандатар. 12. Накладная. 13. Сола. 15. Паленаў. 16. Дэканат. 18. Бусак. 20. Архар. 26. Нота. 27. Баланс. 28. Трос. 32. Уйгур. 33. Візіт. 36. Айван. 37. Канат.

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Дзядулю з'елі

З жыцця Маскоўскага ўніверсітэта. Жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі чатыры будучыя свяцілы навукі. Трое былі з СССР, яшчэ адзін, Мбунга, здаецца, з Буркіна Фасо.

Неяк раз, калі гэтага Мбунгі не было, тры савецкія студэнты вырашылі выпіць. Прынеслі гарэлкі і спахапіліся, што закусі няма. Час позні, магазіны зачыненыя, таму пачалі шукаць па «схованках»: ні-чо-га. Залезлі ў халадзільнік: ні-чо-га. Толькі нейкая бляшанка, як у нас з-пад кансерваў бываюць. Далей - рэплікі ўсёй тройцы.

- Гэта, мусіць, Мбунга купіў!

- Ды яна там сто гадоў валяецца!

- Ай, давайце з'ядзім! Мбунга не пакрыўдзіцца.

Выпілі-закусілі.

- Мяса нейкае дзіўнае.

- Ды нармальная кансерва!

- З гарэлкай не атруцімся!

Пасля трапезы ў пакой уваходзіць Мбунга, бачыць сваю бляшанку (пустую), зняможаны - са стогнам - садзіцца на ложак, абхоплівае галаву рукамі і пачынае плакаць.

- Ты што?!

- З-за кансервы так разнерваваўся?

- Ды годзе, Мбунга! Мы табе заўтра тры тушонкі купім.

Мбунга:

- Дзя-ду-ля...

- Што «дзядуля», памер?

Мбунга:

- З'елі...

- Хто???

- Ды вы ж, вы і з'елі майго дзядулю! У нас такі звычай: сэрца любімага чалавека з сабою вазіць...

Што было далей - зразумела. Да ўнітаза ўтварылася чарга. Мбунгу адмацюкалі, затым яму ўсё ж даравалі. Кансервы больш не ўжывалі.

## Яна і ты

**Жанчына** выходзіць замуж з надзеяй, што мужчына зменіцца, а ён не мяняецца.

**Мужчына** жэніцца з надзеяй, што жанчына не зменіцца, а яна мяняецца.

ПРОСТА АНЕКДОТ

Чарговыя манеўры англійскай танкавай дывізіі. Сахара, шмат сонца і пяску. Па ледзь прыкметнай сцяжынцы (каляінай, натуральна, таксама не назавеш) рухаецца джып камандуючага. Нечакана машына застрае ў пяску. Генерал крыху апускае бакавое шкло, меланхалічна, у англійскім стылі, ацэньвае становішча і паварочваецца да ад'ютанта:

- Прыдумайце што-небудзь, Джон, мы ж спазняемся.

Ад'ютант (праз хвілін колькі):

- Мой генерал, даруйце, аднак адзін я не змагу выцягнуць наш аўтамабіль.

- Падсуньце пад кола нейкую палку, ці што іншае.

- Мой генерал, мы ў пустыні, тут толькі пясок!

Раптам камандуючы заўважае ўдалечыні на адным з барханаў групу салдатаў:

- Джон, я бачу салдатаў, яны ў форме арміі Яе Вялікасці. Перадайце ім мой загад: выцягнуць з пяску нашую машыну!

Ад'ютант подбегам дабіраецца да бархана, хвіліну размаўляе з салдатамі і бяжыць назад.

- Мой генерал, яны адказваюць, што, згодна з правіламі вучэнняў, яны могуць не падпарадкоўвацца вашым загадам, бо з'яўляюцца забітымі ў ходзе манеўраў.

- Генерал секунду разважае, затым загадвае:

- У такім выпадку, Джон, падкладзіце іхнія трупы пад колы нашай машыны.

ГАРАСКОП 22 – 28 ЛІСТАПАДА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Хаця зоркі і абяцаюць сваю падтрымку, але і самому "варон" лічыць не варта.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Каб вырашыць праблемы, прытрымлівайцеся парады французаў, якія рэкамендуюць ва ўсім "шукаць жанчыну".

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Калі вас перапаўняюць славалюбівыя імкненні, можаце атрымаць добры шанц для здзяйснення сваіх планаў.

**РАК (22.06–23.07)**
Многія надзеі могуць ажыццявіцца. У дзелавой сферы вялікая верагоднасць заключэння выгадных здзелак.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Наколькі вы ўмееце праявіць прафесіяналізм, настолькі магчымыя перамены да лепшага.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Можна разлічваць на паспяховае ўзаемадзеянне з партнёрамі. Гэтаму ж будзе садзейнічаць ваш вялікі інфармацыйны банк.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Добрае самаадчуванне, добры настрой і прыхільнасць зорак многага вартыя. Ёсць сэнс атрымаць з гэтага усё магчымае.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Энергію і абаяльнасць карысней за ўсё будзе выкарыстаць у прафесійных справах.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Магчымае нечаканае з'яўленне новых крыніц даходу. Пры разглядзе важных пытанняў пажадана прыслухацца да меркавання блізкіх.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Буднія дні спрыяльныя для любых спраў. Не варта забывацца, што ваш пункт апоры – уласная сям'я.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Паляпшэнне фінансавага становішча можа пасадзейнічаць пацяпленню сямейнага клімату.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
З'явіцца магчымасць пачаць паспяховую рэалізацыю планаў пры адной абавязковай умове: ніякай заспакойлівай маны.

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

***"Дарэмна нас дражняць бульбаю. Ёсць бульба, ёсць і да бульбы. (...) Над сваім апетытам беларус заўсёды пасмейваўся (уменне іранізаваць не толькі над кімсьці, але і над самім сабою – адна з самых, па–мойму, вартых рыс беларускага нацыянальнага характару): "Прадаў на рынку кабана, пайшоў закусіць. З'еў тры міскі капусты з боханам хлеба, сала хатяга з фунт. Тут купіў яшчэ тры порцыі смажанай каўбасы ды ўмяў. Пасля бульбы змамоніў міскі тры. Зноў баршчу міску ўбіў з булкай. А пасля як успомніў, што брат у салдатах, то як завязала". (Уладзімір Караткевіч)***

## Мачанка па–сялянску

**(традыцыйная беларуская кухня)**

Свініну і дамашнюю кілбасу парэзаць на кавалкі і абсмажыць. Муку падсмажыць, развесці булёнам або вадой, уліць у ваду, якая кіпіць, увесь час памешваючы, да ўтварэння рэдкай мучной падліўкі. Дадаць сельдэрэй, соль, дробна парэзаныя і падсмажаныя кавалачкі сала і рэпчатую цыбулю. Перамяшаць з мясам і паставіць на 20–25 хвілін у печ або духоўку. Мачанку падаць з блінамі або варанай бульбай.

***250 г мяса, 200 г дамашняй кілбасы, 2 цыбуліны, 100 г сала, 2 вялікія лыжкі мукі, сельдэрэй, соль.***

## Мачанка

**(сучасная беларуская кухня)**

Кавалачкі свініны з рэбернымі косткамі абсмажыць да ўтварэння румянай скарыначкі, скласці ў каструлю, дадаць булён або ваду, лаўровы ліст, соль, закрыць накрыўкай і тушыць амаль да гатоўнасці. На булёне, атрыманым пры тушэнні, прыгатаваць смятанны соус з цыбуляй.

***Смятанны соус:*** пшанічную муку (2 вялікія лыжкі) крыху спасераваць, развесці гарачым мясным булёнам або адварам з гародніны (2 шклянкі), працадзіць, дадаць смятану (3 шклянкі) і варыць на слабым агні 5–10 хвілін.

Падрыхтаванае мяса паліць соусам, дадаць спецыі і паставіць у духоўку на непрацяглы час. На гарнір падаць вараную бульбу або бліны.

***400 г свініны, 1 шклянка булёна ці вады, 2 вялікія лыжкі топленага сала, 8 бульбін, 1 цыбуліна, 200 г смятаннага соусу, спецыі, соль.***

## Свініна апетытная

Свіную карэйку парэзаць на кавалкі, адбіць, пасаліць, пасыпаць перцам і тоўчаным часнаком. Скруціць у выглядзе кілбасак, змачыць у сырым яйку і сухарах, потым зноў у яйку і сухарах. Смажыць у вялікай колькасці тлушчу (у фрыцюры). Падаць да стала са смажанай бульбай і дробна парэзанай зелянінай.

***400 г свініны, 2 яйкі, 3 вялікія лыжкі сухароў, 4–5 зубкоў часнаку, 6 бульбін, 4 вялікія лыжкі топленага масла, тлушч, перац, соль.***

***Гаспадыня.***

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Які вялікі паніч!

У першы пасляваенны год наведаў у суседняй вёсцы Качаны дзядзьку, матчынага брата. Пачалі гатаваць. На стол паставілі вялікую гліняную міску капусты, была яечня, печаная бульба, агуркі. Ляжалі на стале хлеб, лыжкі. Здагадаўся, што будзем есці ўсе разам, з агульнага посуду, як пры дзядах, прадзедах у сялянскіх сем'ях.

– Ці ёсць у вас невялікая міска ці талерка? На фронце ў мяне быў свой кацялок, у вайсковым шпіталі кожнаму параненаму – асобны посуд.

Талерку мне далі, з агульнага посуду налілі капусты. Дзядзька не вытрымаў і сказаў:

– Які вялікі паніч! Адвык ад сялянскага жыцця. Як быў малы, дык еў жа з агульнай міскі?

– Еў, інакш быў бы галодны.

Пасля ў дзядзькавай хаце давалі есці з асобнага посуду, самі ж не захоўвалі ніякага этыкету. Так было стагоддзямі на вёсцы. З цягам часу і мая радня пабагацела, набыла больш посуду. Часам я іх называў "панічамі" і "паненкамі".

Дарэчы, можна расказаць сённяшнім маладым людзям, што ў даваенны і пасляваенны час на вяселлях ды іншых урачыстых вечарах пілі з адной чаркі, якая "хадзіла" па крузе. Такая была традыцыя.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

ПАДПІСКА–2000

# «Гаспадыня»: з дабром і любоўю

***МІНСК. Сем год таму перад чытачамі з'явіўся сціплы па знешнім выглядзе, аб'ёме і накладзе часопіс з вельмі дамашняй назвай "Гаспадыня". Сёння ён трымае лідэрства ў шэрагу самых папулярных выданняў, тыраж – 140–200 тысяч экземпляраў.***

Як удаецца творчаму калектыву заваёўваць чытацкія сімпатыі, расказвае галоўны рэдактар часопіса **Зіновій Прыгодзіч.**

– Мы не ставілі і не ставім задачу выпускаць часопіс для эліты. Наша выданне даступнае ўсім, у каго ёсць жаданне і патрэбнасць чытаць. Невялікі рэдакцыйны калектыў жыве тымі ж клопатамі, што і чытач. Сем год – тэрмін дастатковы, каб навучыцца рабіць часопіс цікавым і карысным.

У новым годзе ў часопісе будзе істотна ўзмоцнены духоўны бок зместу. У апошнім годзе не толькі стагоддзя, але і тысячагоддзя ў чалавеку абвастраюцца вечныя пытанні быцця: у чым сэнс нашага існавання? Куды мы рухаемся? Што чакае нас у будучым? Паразважаць над гэтымі няпростымі пытаннямі мы запрасілі вядомых пісьменнікаў, філосафаў, сацыёлагаў, палітыкаў.

"Гаспадыня" аб'яўляе ў новым годзе своеасаблівы конкурс на лепшае пісьмо, канкрэтны аповяд пра тое, як чалавеку ўдалося пераадолець цяжкія абставіны, справіцца са складанымі праблемамі, паверыць ва ўласныя сілы. Фірма "Гарызонт" пайшла нам насустрач, пераможцы будзе ўручаны каштоўны прыз – тэлевізар.

У будучым годзе змест раздзела "Святло сям'і" будзе якасна палепшаны. У яго будзе новы вядучы – Юрый Гусеў, доктар філасофскіх навук, член–карэспандэнт Міжнароднай акадэміі арганізацыйных і ўпраўленчых навук.

Хацеў бы звярнуць увагу яшчэ на адну нашую задумку. Са студзеня мы адкрываем новую рубрыку "Анталогія любоўнай лірыкі". Весці яе будзе вядомы беларускі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Янка Сіпакоў. Рубрыка ўключае ў сябе ўсё лепшае, што напісана паэтамі свету пра жанчын і каханне.

Па шматлікіх просьбах чытачоў і, у прыватнасці, настаўнікаў, вучняў сярэдніх школ, аднаўляем публікацыю рэпрадукцый шэдэўраў сусветнага жывапісу.

Вядома, нямала творчых навінак чакае чытачоў у нашых практычных раздзелах: "Сад і агарод", "Здароўе", "Рукадзельніца", "Смачна есці" і іншых.

Зразумела, усё задуманае мы не змаглі б рэалізаваць толькі сіламі штатных супрацоўнікаў рэдакцыі. Наша галоўная творчая сіла – гэта пазаштатныя карэспандэнты. Кожны раздзел мае дастаткова вялікі круг пастаянных аўтараў. Яны не толькі ўзбагачаюць часопіс цікавымі матэрыяламі, у якіх утрымліваецца мноства карысных парад, але і прыязджаюць, прыходзяць у рэдакцыю, каб пагутарыць, падсілкаваць нас новымі думкамі, арыгінальнымі ідэямі. Пішыце або тэлефануйце ў рэдакцыю – тут вас падтрымаюць і ў радасці, і ў горы.

Такім чынам, шаноўныя чытачы, "Гаспадыня" пастараецца ў новым годзе быць для вас яшчэ больш цікавай і задушэўнай суразмоўцай.

Дабра і любві вам, поспехаў ва ўсіх вашых справах!

З надыходзячым Новым годам!

